

ОРГАН БЕЛАРУСКАИ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "BACKAUSCYNA" ("FATHERLAND")

Responsible Publisher: Wladimir BORTNIK

Printing Office: Buchdruckerei der Apostolischen Visitatur, München 8, Rosenheimer Straße 46a. — Telefon-Nr. 45 81 43

Post Adress: "Backauscyna", München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III
Die Administration der Weißruthenischen Zeitung „BACKAUSCYNA"
München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 50 Н. ФЭН.

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND" | LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE"

№ 9 (88) Нядзеля, 2 сакавіка 1952 г. ГОД ВЫДАНЬНЯ 6

# Перад вырашальнымі падзеямі

Міжнароднае напружаньне ў сьвеце асягнула свой кульмінацыйны пункт. Халодная вайна, ведзеная паміж камуністычным Усходом і дэмакратычным Захадам, увайшла ў канцовую фазу, якая доўга трываць ня можа і далей якой ісьці ўжо нельга. Сьвет стаіць перад дылемай: або халодная вайна хутка пяройдзе ў стан гарачае вайны ў сусьветным маштабе або мусіць наступіць хоць-бы частковае і хоць-бы на нейкі час адпружаньне. Перагонка збраеньняў, на якую Амэрыка кідае астранамічныя сумы даляраў, якая эканамічна руйнуе дзяржавы заходняе Эўропы, ня можа трываць вечна, яна мусіць мець свае граніцы. Таксама мусяць мець свае граніцы й справакоўваньні Савецкім Саюзам што раз новых, як іх яшчэ называюць, «лякальных», ваенных тэатраў або напоўваенных дзеяньняў супраць Захаду.

Таму здань новай сусьветнай вайны ніколі перад гэтым яшчэ так непасрэдна не загражала сьвету, як сяньня, ні разу перад гэтым ад заканчэньня апошняй вайны магчымасьць выбуху новай ня была такой рэальнай, як у бягучым 1952 годзе.

Сяньня стаім напярэдадні двух важных падзеяў, ад якіх у вялікай, а можа й аснаўной меры будзе залежыць, якім шляхам далей пакоцяцца выпадкі, правільней — ці заіснуюць такія перадумовы, якія зробяць выбух новай сусьветнай вайны няўхільным і якія дадуць Захаду магчымасьць весьці гэтую вайну з рэальнай надзеяй на перамогу. Адна такая эвэнтуальнасьць заіснавала на Далёкім Усходзе ў сувязі з магчымасьцю расшырэньня карэйскай вайны на ўвесь кітайскі кантынэнт, другая — у Заходняй Эўропе ў сувязі з плянамі рэмілітарызацыі Нямеччыны. Абедзьве гэтыя праблемы зьяўляюцца сяньня кардынальнымі ў сусьветнай палітыцы й ад іхнага канчальнага разьвязаньня будзе бясспрэчна залежыць многае.

### НЕМЦЫ ПРАЙГРАЛІ ВАЙНУ, АЛЕ ВЫЙГРАЛІ МІР

Вышэйшы сказ ужо ад даўжэйшага часу стаўся часта паўтараным афорызмам. Хоць фармальна мірная ўмова зь Нямеччынай яшчэ не заключаная, хавае ён у сабе зусім рэальны зьмест, адлюстроўвае запраўднае палажэньне на эўрапэйскім Захадзе.

Яшчэ некалькі год таму назад ніхто ня мог навет сабе ўявіць, што ў так хуткім часе Заходняя Нямеччына здолее залячыць свае крывавыя раны, нанесеныя апошняй вайной, моцна стаць на цьвёрды грунт з гледзішча эканамічнага, дайсьці да голасу ў сэнсе палітычным.

Прыгледзімся толькі, што творыцца на тэрыторыі Заходняй Нямеччыны. Разбураныя амэрыканскімі бомбамі нямецкія гарады сяньня шыбка адбудоўваюцца, нямецкая індустрыя працуе поўнай парай на ўсіх 100%, нямецкі экспарт што раз павялічваецца й заваёўвае сусьветныя рынкі, прыносячы не малую канкурэнцыю францускаму, ангельскаму, а навет амэрыканскаму гандлю. На вуліцах нямецкіх гарадоў і магістраляў сяньня ў чатыры разы курсуе болей аўтамашынаў, чымсьці перад вайною. Пад канец студзеня 1952 г. дзённая прадукцыя вугля ў ваднэй толькі Заходняй Нямеччыне дасягнула 417.814 тонаў, тады, калі ў 1938 г., у час найбольшага напружаньня гітлераўскага збраеньня, яна выносіла ў цэлай Нямеччыне (разам зь Верхняй Сілезыяй) толькі 416.000 тонаў. Ня гледзячы на ваенныя зьнішчэньні вялікай часьці нямецкіх прамысловых уладжаньняў і пасьляваенныя дэмантажы, а так-жа на 8 мільёнаў нямецкіх высяленцаў з Усходу, колькасьць безработных сяньня ўжо выносіць толькі каля двух мільёнаў чалавек. Гэтая колькасьць усьцяж малее, ня гледзячы на тое, што ў ваеннай індустрыі яшчэ не працуе ў Нямеччыне ніводзін работнік.

Калі параўняць сяньня эканамічнае палажэньне пераможанай і разьбітай Нямеччыны з такім-жа палажэньнем эўрапэйскі хпераможніц — Ангельшчыны й Францыі, дык параўнаньне гэтае выйдзе на карысьць Нямеччыны. Пагаворка — «немцы прайгралі вайну, але выйгралі мір» поўнасьцю адказвае наяўнай запраўднасьці.

У сувязі з гэтым у звычайнага шэрага чалавека, які ня здольны ўглыбіцца ў запраўдныя прычыны такога стану рэчаў, узьнікаюць цікавыя рэфлексыі. Ён у сваім разважаньні прыходзіць да перакананьня, што ў той час, калі немцы выказалі нязвычайную жыцьцяздольнасьць, ангельцы ў французы аказаліся ўжо нацыямі здэгэнэраванымі, ня здольнымі справіцца з вымогамі жыцьця. Такое перакананьне падмацоўваецца вялікімі цяжкасьцямі й перашкодамі, што тармозяць акцыю збраеньняў заходніх дзяржаваў, дзе выстаўленьне аднэй толькі дывізыі зьяўляецца часта вельмі скамплікаванай праблемай.

Такі пагляд правільны толькі часткова. Не падлягае найменшаму сумліву, што такія якасьці, як працавітасьць, арганізаванасьць жыцьця й працы, ашчаднасьць і наагул жыцьцяздольнасьць нямецкай нацыі ў вялікай меры вызначаюць ейны сяньняшкі дабрабыт і прагрэс. Але да гэтага шыбкага разьвіцьця й праспэраваньня паваеннай Нямеччыны ў васнаўным спрычынілася ейнае нязвычайна выгоднае палажэньне палітычнае, якое дае ей у гэтым сэнсе перавагу над Францыяй і Ангельшчынай.

Калі ходзіць пра Францыю, дык ужо 7 год крывавіцца яна ў цяжкай зацяжнай вайне ў Індакітаі, дзе трымае 240-тысячную армію. Сколькі ей гэтая вайна каштуе, найлепш прадставіў у францускім парляманце Эдвард Даляд'е. Ён сьцьвердзіў: «Калі падлічым усе выдаткі, дык яны выносяць 450 мільярдаў франкаў у год (г. зн. звыш палавіны ваеннага бюджэту Францыі — Рэд.). ... Горшыя яшчэ нашыя страты ў людзях, мы страцілі 28.711 ... Колькасьць ахвіцэраў, што гінуць за адзін год, большая ад гадавога ахвіцэрскага прыросту.» Французы зьяўляюцца аднак наважанымі й надалей абараняць свае пазыцыі ў Індакітаі, ня гледзячы на тое, што афэнзыва камуністычных паўстанцаў апошнім часам узмацняецца й што Францыя вайну гэтую вядзе амаль выключна сваімі собскімі сіламі. Да ўсяго гэтага нядаўна далучыліся паважныя клопаты Францыі ў паўночнай Афрыцы — у Тунісе й Мароко, дзе таксама заіснавала неабходнасьць узмацненьня францускіх гарнізонаў.

Ангельшчына таксама знаходзіцца сяньня ў крытычным палажэньні. Мала таго, што яна патрабуе трымаць не малыя збройныя сілы на Далёкім Усходзе дзеля змаганьня з камуністычнымі паўстанцамі ў Маляях і Бірме. Яна значна абясьсільваецца з прычыны апошніх падзеяў на Блізкім Усходзе — у Іране й Эгіпце. Апрача гэтага, Ангельшчына, імкнучыся прывярнуць сваё сусьветнае значэньне й належна забясьпечыцца на выпадак вайны, гарачкава зброіцца, як ніводная іншая дзяржава ў Эўропе. І тут хабаецца сакрэт таго, здавалася-б на першы пагляд, парадоксу, што ў пераможнай Ангельшчыне сяньня важнейшыя спажывецкія прадукты зьяўляюцца яшчэ рацыянаваныя, што ангелец можа купіць на карткі толькі 100 грамаў мяса на тыдзень, тады, калі немец можа яго купіць, сколькі захоча бязь ніякіх картак.

І вось тут знаходзім разьвязку, чаму якраз Нямеччына сяньня гэтак шыбка йдзе наперад у сваім эканамічным разьвіцьці й пачынае выпярэджваць Францыю й Ангельшчыну. У той час, калі абедзьве апошнія дзяржавы выдаюць на збраеньне ня толькі ўсе тыя мільёны даляраў, якія яны атрымліваюць з пляну Маршаля, але й значную частку собскага нацыянальнага даходу, Нямеччына да гэтага часу ня выдала на збраеньні аніводнага фэніга, калі ня

(Заканчэньне на 3 балоне)

## Зь дзейнасьці Прэзыдэнта БНР у Амэрыцы



**Сп. Прэзыдэнт БНР інж. Мікалай Абрамчык, які стала пражывае ў Парыжы, ад кастрычніка мінулага году прабывае ў ЗША, куды выехаў на даўжэйшы час з мэтаю правядзеньня 6-ай сэсыі Рады БНР, зьвізытаваньня ўсіх буйнейшых асяродзьдзяў беларускай эміграцыі ў розных гарадох ЗША й Канады, навязаньня цясьнейшых сувязяў з палітычнымі прадстаўніцтвамі паняволеных бальшавізмам народаў, а таксама навязаньня патрэбных кантактаў з амэрыканскімі палітычнымі дзейнікамі.**

**Як нас інфармуюць, сп. Прэзыдэнт разгарнуў за гэты час у кажным кірунку вельмі інтэнсыўную дзейнасьць, а ягоныя намаганьні ў многіх выпадках ужо ўкаранаваліся вялікім пасьпехам. Між іншым, амэрыканскія дзейнікі ў сувязі зь дзейнасьцю ў ЗША сп. Прэзыдэнта шырака зацікавіліся беларускай нацыянальна-вызвольнай праблемай і высказваюць свае сымпатыі да нашага нацыянальнага руху. Шмат якія амэрыканскія газэты прысьвяцілі спэцыяльныя артыкулы беларускаму пытаньню, а газэта «The Peoria Star» за 9 лютага 1952 г., разам зь інтэрвью із сп. Прэзыдэнтам, зьмясьціла фотографію сп. Прэзыдэнта сярод беларускіх студэнтаў у гор. Пэорыя (штат Ілінойс), рэпрадукцыю якой гэтта зьмяшчаем.**

## *Роля эміграцыі*

Гаворачы аб нацыянальнай ролі эміграцыі й ейным значэньні ў нацыянальна вызвольным руху беларускага народу, маем наўвеце эміграцыю палітычную. Не без значэньня зьяўляецца таксама й усякая іншая эміграцыя, як, прыкладам, людзі, выэміграваўшыя дзеля заработкаў ці ўцёкшыя ад бальшавіцкага перасьледваньня з аднэю толькі думкаю — астацца пры жыцьці, а якія ня ставяць перад сабой ніякіх нацыянальных заданьняў. Значэньне такой эміграцыі заключаецца ў тым, што яна сваей масаю стварае базу для дзейнасьці тых эмігрантаў, якія, ня гледзячы на непасрэдныя прычыны свайго выэміграваньня, паставілі сабе за заданьне нястомна прадаўжаць нацыянальна-вызвольную дзейнасьць, якую вялі яны на бацькаўшчыне. Яны свой побыт на чужыне ўважаюць за часовы й жывуць мроямі вярнуцца ў родны край, як толькі настане адпаведны для гэтага мамэнт, каб там стаць у рады змагароў за незалежную Беларусь, а, зьдзейсьніўшы гэты ідэал, стацца будаўнікамі беларускай дзяржаўнасьці.

На ролю й значэньне эміграцыі ў нас заглядаюцца розна. Адныя дацэньваюць, і навет перацэньваюць, ейнае значэньне, узалежніваючы выключна ад ейнае дзейнасьці чуць ня вызваленьне Беларусі з пад бальшавіцкай акупацыі; іншыя, наадварот, адмаўляюць ей усякага значэньня, цьвердзячы, што ў вырашальны мамэнт ня будзе яна мець абсалютна ніякага ўплыву на падзеі на бацькаўшчыне, што аб будучым лёсе Беларусі пастановяць толькі тыя, што асталіся на бацькаўшчыне.

Абодвы такія пагляды зьяўляюцца скрайнымі й у васнове сваей хвальшывымі. Тут неабходна знайсьці сярэдзіну, якая й вызначыць найбольш правільную ролю як бацькаўшчыны, гэтак і эміграцыі ў працэсе вызвольнага змаганьня беларускага народу.

Не падлягае найменшаму сумліву, што вырашальны голас у справе будучага лёсу Беларусі будзе мець бацькаўшчына. Ці беларускі народ у вырашальны мамэнт захаваецца пасыўна, бязьдзейна чакаючы, што прынясуць яму выпадкі, ці прыйме актыўны ўдзел у будаваньні собскае будучыні ўключна із збройным за яе змаганьнем, ад гэтага будзе залежыць, ці мы здолаем адбудаваць собскую дзяржаву, ці й надалей станемся аб'ектам чужацкага панаваньня. А аб тым, як у дадзеным выпадку захаваецца беларускі народ, пакінуты сам сабе, сяньня нельга мець асабліва аптымістычных ілюзыяў. Справа ў тым, што, як ведама, бальшавікі бязьлітасна вынішчылі ідэйнае кіраўніцтва народу — нацыянальна творчую інтэлігенцыю, як і нацыянальна актыўнае сялянства, што справа выкліканьня масавага нацыянальнага ўзрыву ў мамэнт развалу бальшавізму ня будзе вельмі лёгкай. Яна будзе ўскладняцца й камплікавацца яшчэ ў сувязі з тым, што ўся расейская інтэлігенцыя, насаджаная на Беларусі бальшавікамі ў мэтах русыфікацыі, павядзе ажыўленую агітацыю за «адзіную й недзялімую».

Што будзе так, а ня йначай, вучаць нас выпадкі з часоў нямецкай акупацыі Усходняй Беларусі падчас апошняй вайны. Ужо ў той час спасярод шматлікай колькасьці нацыянальна актыўнай беларускай інтэлігенцыі былі асталіся толькі рэдкія недабіткі. А шматлікая расейская інтэлігенцыя, як раней насланая, гэтак і ўцёкшая з Расеі падчас контрафэнзывы савецкай арміі, адыграла ў нас вельмі агідную ролю. Яна, здабыўшы давер у немцаў дзякуючы расейскім і зрусыфікаваным зондэрфюрэрам, шляхам даносаў і правакацыяў выдатна спрычынілася да фізычнага вынішчэньня немцамі беларускага нацыянальнага актыву з аднаго боку, а шляхам нясумленнай агітацыі й запалохваньняў трымала ў пасыўным з нацыянальнага гледзішча стане беларускія сялянскія масы. Дык дзе-ж тады гарантыя, што такая сытуацыя не паўторыцца ў мамэнт развалу бальшавізму? Вось тут і адкрыецца тады шырокае й удзячнае поле дзейнасьці для нашае эміграцыйнае інтэлігенцыі, якая ў вадпаведны мамэнт павінна апынуцца як найхутчэй на бацькаўшчыне.

І дзеля гэтага якраз заданьні, што стаяць перад нашай эміграцыяй, зьяўляюцца вялізарныя. Нашая трагэдыя ў тым,

(Заканчэньне на 3 балоне)

## Новы прэзыдэнт Амэрыканскага Камітэту

Створаны прыблізна перад двумя гадамі ў ЗША Амэрыканскі Камітэт Вызваленьня Народаў Расеі з мэтаю нясеньня маральнай і матарыяльнай дапамогі антысавецкай дзейнасьці паняволеных народаў мае сярод гэтых народаў адыграць паважную ролю. Будучы прыватнай установай, але бясспрэчна дзеючай у паразуменьні зь дзяржаўнымі дзейнікамі Амэрыкі, гэты Камітэт мае патранаваць з амэрыканскага боку ўсей антыбальшавіцкай акцыі падсавецкіх народаў. Аб гэтым сьветчыць факт, што Амэрыканскі Камітэт быў фактычным ініцыятарам г. зв. СОНР-у, намагаўся мець вырашальны ўплыў на ягоны палітычны кірунак і даваў яму матарыяльнае падтрыманьне. Калі-ж аднак СОНР, не дасягнуўшы яшчэ фазы канчальнага арганізацыйнага афармленьня, разваліўся дзякуючы вялікадзяржаўніцкім імпэрыялістычным тэндэнцыям расейцаў, Амэрыканскі Камітэт не пакінуў гэтай справы, але шукае новых формаў мантаваньня супольнага фронту змаганьня з бальшавізмам, якое павінна ўключаць у сябе як палітычную дзейнасьць эміграцыі падсавецкіх народаў, гэтак і рэвалюцыйныя сілы па той бок зялезнай заслоны.

Бачым тады, што Амэрыканскі Камітэт можа мець вялікае значэньне й згуляць паважную ролю ў нацыянальна-вызвольнай антыбальшавіцкай дзейнасьці падсавецкіх народаў. Таму мы ня можам да гэтай установы ставіцца абыякава: мы павінны ей больш цікавіцца, абсэрваваць ейную дзейнасьць, інфармаваць яе аб запраўдным палажэньні на акупаванай бацькаўшчыне й нацыянальных патрэбах беларускага народу, каб гэткім спосабам адкрываць вочы аб'ектыўным людзям у гэтым Камітэце, якія часта глядзяць на справы цераз хвальшывыя расейскія акуляры.

Да гэтага часу Амэрыканскі Камітэт **Вызваленьня Народаў Расеі меў вы**разна прарасейскі кірунак, аб чым ужо сьветчыла навет ягоная назва, якая нядвузначна паказвала, што ўсе нерасейскія народы зьяўляюцца собскасьцю Расеі, ейнымі васалямі. Дасюлешнім прэзыдэнтам Амэрыканскага Камітэту быў ведамы амэрыканскі публіцысты й ня менш ведамы русафіл Юджэн Ляёнс. Спасярод сяброў Камітэту было таксама многа русафілаў і амэрыканцаў расейскага паходжаньня тыпу ведамага із свае бескампрамісовае «адзінанедзялімаўскае» канцэпцыі рэдактара «Новага Рускага Слова» Вайнбаўма.

Важнай апошняй падзеяй у гэтым Камітэце была зьмена ягонага прэзыдэнта. 10 лютага сёлета газэты паведамілі, што на месца дасюлешняга прэзыдэнта Ляёнса, які абняў становішча адміністрацыйнага дырэктара, прыйшоў адмірал Элен Дж. Кэрк, які да кастрычніка мінулага году быў два з палавінаю гады амбасадарам ЗША у Маскве.

Дзякуючы свайму папярэдняму становішчу, сп. Кэрк бясспрэчна меў магчымасьць добра прыгледзіцца да падсавецкага жыцьця й вырабіць свой пагляд на нутраныя дачыненьні ў СССР. Хаця Амэрыканскі Камітэт зьяўляецца прыватнай установай, ня можа быць найменшага сумліву, што назначэньне сп. Кэрка на становішча ягонага прэзыдэнта не адбылося без паразумленьня із «Стэйт-дэпартамэнтам», тым больш, што сп. Кэрк зьяўляецца выдатным амэрыканскім дыпляматам, які знаходзіцца ў распараджэньні таго-ж «Стэйт-дэпартамэнту». Усё гэта гаворыць за тым, што, ня гледзячы на правал сонраўскай канцэпцыі, амэрыканцы ня думаюць пакідаць справы дапамогі ў змаганьні паняволеных народаў з бальшавізмам, наадварот, справе гэтай мае быць прысьвечаная асаблівая ўвага. Такім чынам у працэсе зацікаўленьня змаганьнем паняволеных народаў з бальшавізмам значэньне сп. Кэрка на становішча прэзыдэнта Амэрыканскага Камітэту можа мець ня меншае значэньне, чымсьці нядаўняе вызначэньне амэрыканскім кангрэсам сумы 100 мільёнаў даляраў на фінансаваньне антыбальшавіцкай збройнай акцыі паняволеных народаў.

Што канкрэтна прынясе з сабой зьмена на становішчы прэзыдэнта Амэрыканскага Камітэту, гадаць яшчэ цяжка. Сп. Кэрка на сваім новым становішчы яшчэ не паказаў свайго палітычнага аблічча, яшчэ ня выказаў свайго палітычнага «крэдо». Адным із абнадзейваючых сымптомаў ёсьць тое, што ён у сваіх выступленьнях, ня ў прыклад свайму папярэдніку, не гаворыць ужо аб «расейскім народзе» ані аб «народах Расеі», але толькі аб «народах Савецкага Саюзу». Ды напасьледак існуе такі ўжо звычай, што із зьменаю палітычнага кірунку арганізацыі звычайна мяняецца ейны старшыня, як із зьменаю такога-ж кірунку дзяржавы мяняецца ейны міністар, які вёў дадзены рэсорт. Ня ведаючы яшчэ, па якой палітычнай лініі пойдзе ў далейшым Амэрыканскі Камітэт, назначэньне сп. Кэрка на становішча ягонага прэзыдэнта ёсьць усё-ж такі мамэнтам абнадзейваючым.

Ад сябе хочам толькі дадаць, што калі Амэрыканскі Камітэт і пры новым прэзыдэнце пойдзе па «адзінанедзялімаўскай» лініі пры раўначасным нэгаваньні справядлівых дамаганьняў нерасейскіх народаў, дзейнасьць ягоная, падобна як і дагэтуль, ніякага пасьпеху мець ня будзе. І наадворот, калі ён перастане быць адвакатам расейскага імпэрыялізму, а пойдзе па лініі поўнага вызнаньня нацыянальных правоў паняволеных расейскім бальшавізмам народаў, Амэрыканскі Камітэт здабудзе поўны давер і падтрыманьне сярод гэтых народаў і зможа адыграць вялізарную ролю ў іхным змаганьні з бальшавізмам.

# Трохструнная балалайка

## ПРА ГЛЫБЕЙШЫЯ ПРЫЧЫНЫ СУПРАЦЬЗАХОДНЯГА КРЫЗЫСУ НА ДАЛЁКІМ І БЛІЗКІМ УСХОДЗЕ

**Над гэткім загалоўкам паявіўся ў «Украінскім Самостыйнику» за 10 лютага сёлета артыкул выдатнага ўкраінскага журналістага З. Порая, у якім вельмі трапна адлюстраваная сучасная палітычная сытуацыя на фоне міжнароднага напружаньня між усходня-камуністычным і заходня-дэмакратычным сьветам, а таксама пададзены правільны рэцэпт, як адзіную мажлівасьць вылячэньня сяньняшняй міжнароднай хваробы. З гледзішча на гэтыя якасьці артыкулу, перадрукоўваем яго гэтта за згодаю Аўтара поўнасьцю.**

**Паколькі сам Аўтар зьяўляецца ўкраінцам і пісаў свой артыкул для ўкраінскай газэты, ён у вацэне сытуацыі выходзіць з украінскага пункту гледжаньня. Але гэты пункт гледжаньня поўнасьцю адказвае й пункту гледжаньня нашаму, беларускаму.**

**Рэдакцыя**

### «ВЫМАГАЕМ ПРЫЯЗЬНІ З САВЕТАМІ!»

У суботу 26. 1. 52 г. многатысячны «нацыяналістычны» натоўп бушаваў самавольна на вуліцах Каіру, сталіцы Эгіпту. Вуліца распраўлялася пасвоему із зьненавіджанымі чужынцамі, асабліва зь «інглізамі». У розных кварталах гораду, групамі ад 5 да 15 тысяч людзей, хадзілі «нацыяналістычныя» дэманстрацыі, пратэстуючы супраць брытанскага імпэрыялізму; дэманстранты спалілі каля сотні чужынецкіх будынкаў — установаў, банкаў, кін, готэляў, клюбаў і іншых. У ходзе гэтай каірскай г. зв. «вясёлай суботы» загінула 67 асобаў, у гэтым ліку трох брытанцаў, рэшта — эгіпцыян, найболей жанчын і дзяцей. «Нацыяналістычная» чэрнь станавілася мурам перад чужынецкімі канзулятамі, пасольствамі й амбасадамі й паўтарала хорам: «Сьмерць чужынцам!» — «Проч з брытанскім імпэрыялізмам!» — **«Дамагаемся прыязьні з саветамі!» — Хочам савецкай зброі!»** Якімсьці незгаданым паваротам псыхалёгіі натоўпу, разьюшаная вуліца найгаласьней вымагала «прыязьні з саветамі», асабліва настырліва й войстра — перад швэдзкім пасольствам, якое напасьледак спаліла. Паліцыя была «бязрадная», інакш кажучы, не хацела ўмешвацца да гэтага «выбуху народнага гневу», і яму, праўдзівей кажучы, ціхачом дапамагала. Толькі калі на асабісты загад караля Фарука на зрэвальтаваныя вуліцы прымаршавалі пад гэлмамі, з насаджанымі штыхамі, пад ахаронаю танкаў, сталічныя вайсковыя аддзелы — у горадзе настаў супакой.

### НЯ ВЫЗВОЛЬНАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ — А БАЛЬШАЕЦКАЯ ПРАВАКАЦЫЯ

Мы сьвядома крыху даўжэй спыніліся на апісаньні каірскіх падзеяў, якія ў далейшых сваіх паваротах прывялі да вось якіх вынікаў:

1. Кароль абвесьціў у краіне ваеннае палажэньне, 2. заведзена палявыя суды, 3. цывільнаму насельніцтву забаронена выходзіць на вуліцу сталіцы ад 6 гадзіны вечара да 6 гадзіны нараніцы, 4. адсунуты быў урад **Нагас-пашы** й створаны панадпартыйны ўрад прэм'ера **Магер-пашы,** які атрымаў дыктатарскія правы, 5. заяўлена аб магчымасьці скасаваньня ў Эгіпце дэмакратычнай канстытуцыі, асабліва-ж — ліквідацыі парлямантарызму.

Каб ня было навет ценю непаразуменьня, трэба на гэтым месцы з усім націскам падчыркнуць, што ў самай аснаўной ідэі ўкраінскія нацыяналістыя павінны ставіцца з сымпатыямі да эгіпскага вызвольнага руху. Калі хто ў сьвеце ведае, што такое ўлада чужынцаў, што такое імпэрыялізм, што такое эксплятатацыя, што такое нацыянальная зьнявага, што такое прэтэнсыя заваявальніка на вышшасьць, — то гэта ведае аж да самага болю якраз Украіна. Ніхто бо ў сьвеце ня п'е так многа аж да дна гэтай чары нацыянальнага гора, як іменна наш народ. І ніўкога бо не заціскаюцца гэтак зубы ў кулакі, як паміж украінцаў. Калі нехта ў сьвеце мае права на ненавісьць, расправу й адплату, то найбольш мае сяньня гэтае права да самага крывавага поту эксплятаваная й прыніжваная Украіна. Аднака-ж мусім навучыцца адрозьніваць між справядлівай нацыянальнай вызвольнай рэвалюцыяй — і бунтам зрэвальтаванай чэрні; між справядлівым рэвалюцыйным судом і правам нацыі на кару — і крывавай расправай разбэшчанага натоўпу; між вызвольнай **палітыкай** і адрухамі сьляпых **эмоцыяў;** між справядлівым нацыянальным гневам — і правакацыйным «адплатным» дзеяньнем чужой агентуры, якая паслугоўваецца эмоцыямі масы для дасягненьня сваіх собскіх, звычайна-ж, дасканала замаскаваных мэтаў. Аднака-ж, на жаль, у Эгіпце маем гэтымі днямі дачыненьне ня зь першай, але з **другой** з гэтых праціпележных катэгорыяў: маем тут, на фоне справядлівых дамаганьняў нацыі, дачыненьне з **правакацыйнай работай чужынецкай, у дадзеным выпадку, бальшавіцкай агентуры.**

### НЕ ЭГІПСКІЯ НАЦЫЯНАЛІСТЫЯ — ВАЙНУ ВЯДЗЕ МАСКВА!

Гэтым падходзім да сутнасьці ня толькі эгіпскай праблемы, але **наагул** аснаўной праблемы **ўсей** сусьветнай палітыкі нашых дзён. Эгіпскім студэнтам, сацыялістым і лібэралам **толькі здаецца, што гэта яны вядуць вайну з «брытанскімі заваявальнікамі».** Ды не, не яны. У Эгіпце вайну супраць Вялікабрытаніі — і ня толькі супраць яе — **сяньня вядзе Масква,** таксама, як яна яе вядзе ў **Іране, у Бурме, у Індакітаі, у Карэі,** наагул скрозь там, дзе дзеяць бальшавіцкія пятыя калёны. Людзі часта пытаюцца: калі будзе трэйцяя сусьветная вайна? Што за пытаньне! Яна **ня будзе;** яна **ўжо** ёсьць, яна ўжо разыгрываецца скрозь там, дзе бачым такія падзеі, як апошнім часам у Эгіпце або ў Іране. Тых 12 эгіпскіх жанчын, што згарэлі ў суботу 26. 1. 1952 ў пачакальні каірскага Орыент-Банку, зьяўляюцца такімі самымі ахвярамі ўжо шалеючай трэйцяй сусьветнай вайны, як і тых 120 тысячаў амэрыканцаў, што былі гэтымі месяцамі забітыя, загубленыя або параненыя ў Карэі.

Мы выразіліся ў папярэднім нумары «УС» на гэтым месцы, што хаця ў маскоўскім палітбюры сядзяць праступнікі, яны пры гэтым ня ёсьць ідыёты. Наадварот, гэта найбольш рафінаваныя, усімі водамі мытыя палітыкі, якія дзе-небудзь дзеяць калектыўна ў сучасным сьвеце. Сяньня, на падставе эгіпскіх падзеяў, можам толькі паўтарыць і яшчэ раз падчыркнуць гэтую нашую апінію. Які быў непасрэдны вынік крывавых падзеяў ў Ізмаілі й Каіры? Такі, што з Мальты й Цыпру, брытанскіх ваеннаморскіх базаў на Міжземным моры, безадкладна адплыла да берагоў Эгіпту, да Суэцкага каналу, на Чорнае мора й да Пэрскай затокі ўся, што была напагатове, брытанская ваенна-морская флёта: два авіяносцы, 1 лінкор, 4 крэйсэры й адпаведная да гэтага колькасьць зьнішчальнікаў, тарпэдных суднаў, падводных лодак і г. п.

### ПАЛІТЫЧНАЯ ЙГРА НА МАСКОЎСКАЙ БАЛАЛАЙЦЫ

Каго Масква ўважае ў сучасны момэнт за сваіх патэнцыяльна найгразьнейшых праціўнікаў? Наяўна — Амэрыку, Вялікабрытанію й Францыю. Як спаралізаваць, абязуладніць, адсунуць ад СССР гэтых праціўнікаў? Найпрасьцей, чымсьці каму здаецца: увязаць іхныя сілы, прыкаваць, спаралізаваць далёка паза тэрыторыямі СССР, давесьці да таго, каб гэтыя магутнасьці вычэрпывалі свае сілы й выкрываўлівaліся на пэрыфэрыі, пакідаючы Маскве час і прастор дзеля таго, каб яна магла безь перашкодаў дапаўняць і ўдаскальваць сваё собскае збраеньне. Такім чынам увязьнілі й прыбілі цьвяком **Амэрыку ў Карэі, Францыю — у Індакітаі** й часткава ў Мароко й Тунэзыі, **Вялікабрытанію — на Блізкім Усходзе, у Іране і ў Эгіпце.** Гэта й ёсьць тая **маскоўская палітычная трохструнная балалайка, на якой палітбюро выігрывае такія замежна-палітычныя мэлёдыі, якія сама хоча.** Раз яна прысьпешвае, то ўзноў зваляе карэйскія «мірныя перагаворы» — але заўсёды трымае, ня месяцамі, але ўжо гадамі, цэлаю амэрыканскую ваенную машыну напагатове й у эканамічна вычэрпваючай мабілізацыі. У Індакітаі Францыя даслоўна топіць штогодна ў крыві й балоце ўсе тыя сотні мільёнаў даляраў, якія атрымлівае ад Амэрыкі з пляну Маршаля і МСА на «адбудову». Вялікабрытанія цэлымі гадамі прадаўжае палітыку гаспадарскай «остэрыты», рэжым туга заціснутага пояса, жыве на беразе інфляцыі й гаспадарскай руіны, бо й яна зьяўляецца прымушанай трымаць збройныя сілы — і бесьперарыўнае дазбройваньне — у стане непасільнай, непрадуктыўнай, бесканечнай мабілізацыі.

### ПРЫПАДАК ПАЛІТЫЧНАЙ «ЭГІПСКАЙ СЬЛЕПАТЫ»

Дык-жа Масква ня хоча й ня імкнецца да вялікай, адкрытай сусьветнай вайны. Да чаго ей такая вайна магла-б прыдацца? Да нічога. Сябры палітбюро — ня толькі добрыя палітычныя выхавальнікі. Яны адначасна вельмі добрыя інжынеры й канструктары ўсякага роду хаосу, рэвольты, неспакою, правакацыі, разбрату. Апошні прыклад: «вызвольная» эгіпская «нацыянальная рэвалюцыя» на вуліцах Каіру, «вызвольная» пад транспарэнтамі:

«Вымагаем прыязьні з саветамі!» —

«Хочам зброі ад саветаў!»

Мы яні чуць не зьяўляемся адвакатамі брытанскіх інтарэсаў у Эгіпце, хаця таксама й мы будзем, з гледзішча на ўкраінскія дзяржаўныя інтарэсы, вымагаць інтэрнацыянальнага статусу для Суэцкага каналу. Праўда ёсьць толькі тая, што «нацыяналістычныя» каірскія палітыкі, пабітыя запраўднай палітычнай «эгіпскай сьлепатой», ня бачаць розьніцы між статусам «брытанскага імпэрыялізму» ў Суэцкім канале і статусам, які нямінуча паўстаў-бы для Эгіпту пры зьдзейсьненьні лёзунгу аб «прыязьні Эгіпту да саветаў», і наадварот. Гэтай «прыязьні» з Масквою дазнае ад стагодзьдзяў Украіна, а побач зь ёй яшчэ й дзесяткі іншых паняволеных Масквою нацыяў. Але ў Каіры яшчэ ня знаюць значэньня ведамага маскоўскага прыслоўя, якое нядаўна нам так да рэчы прыпомніў мюнхэнскі «Хрысьціянскі Голас», — што «хто ў Маскву ідзе, галаву нясе».

### ЗАПРАЎДНАЕ ЖАРАЛО ТРАГЭДЫІ

Запраўднае жарало для сучаснай трагэдыі сьвету ня толькі ў маскоўскім імпэрыялізьме. Гэты імпэрыялізм ёсьць стыхійным злом, скажам, як паводка, якая зь сілаю праціскаецца скрозь, не знаходзіць месца, дзе ня сустракае берагоў ды грэблі; або як пашырваньне дзяржавы тэрмітаў, якія распаўсюджваюцца й уядаюцца ў вакружэньне з аднаго цэнтру што раз шырэй і далей, дзе толькі сустракаюць на сваім шляху тое, што можна зьесьці. Масква і маскалі ня могуць інакш.

Трагэдыя ў тым, што Захад дазволіў — і далей дазваляе — Маскве прысабечыць у яе зьнішчальным паходзе найпрыгажэйшыя справядлівыя й апраўданыя **ідэі,** якія, замест для Захаду, становяцца для Масквы жаралом яе экспансіі й сілы. Да такіх ідэяў належыць між іншым ідэя **нацыяналізму:** справядлівая ідэя волі, незалежнасьці, права на дзяржаўнасьць **кажнай** нацыі. Маем тут, ясна, на ўвазе не імэрыялістычны, захопніцкі, але этнічна абмежаваны нацыяналізм, як падставу мірнай канструкцыі ўсяго вольнага сьвету. Толькі з гэтай падставы можна думаць пра больш-менш шчыльныя міжнародныя й міждзяржаўныя, а калі хтосьці гэтага хоча — і фэдэратыўныя задзіночаньні.

Але калі Захад калі-небудзь і штонебудзь наагул рабіў па гэтай лініі — то заўсёды рабіў «To little and to late», — за мала й за позна. Як у шмат чым іншым, так і тут Захад перадаў Маскве праграмова-ідэалягічную **ініцыятыву.** Каірскіх, разгарэўшыхся да белага, студэнтаў Вялікабрытанія магла-б мець **проціў** Масквы й бальшавізму на сваім баку, калі-б перад 5 гадамі зрабіла з **собскай** ініцыятывы й дабравольна тое, што зь ініцыятывы Масквы й пад ціскам масаў усёроўна будзе **прымушана** зрабіць за 2, 3 ці 5 гадоў. Адносіцца гэта таксама да Эгіпту, як і да Ірану, таксама да Тунэзыі, як і да Індакітаю.

### РОЗУМ ЁСЬЦЬ ДОБРАЯ РЭЧ, КАЛІ-Б ЯГО МЕЦЬ...

Самую Маскву й яе імпэрыялізм Захад мог-бы палітычна й мілітарна лёгка зьліквідаваць пры дапамозе правільна сфармуляванай нацыянальнай ідэі. Але прыгледзьцеся толькі, што амэрыканцы й брытанцы робяць сяньня, прыкладам, у дачыненьні да нацыянальна-вызвольнага змаганьня Украіны, Беларусі, народаў Каўказу, Туркестану, Сібіру й г. д.... Як і дагэтуль — палітыка Захаду ў дачыненьні да вызвольнага змаганьня гэтых нацыяў — гэта палітыка бесьперапынных дыскрымінацыяў, незацікаўленасьці, абыякавасьці, вельмі часта навет адкрытай зьнявагі й пагарды. Захад і сяньня стрымліваецца на «ўсьвечаных» гісторыяй межах «матушкі Расеі», жадае, каб Масква рассаджвала дынамітам нацыяналізму заходнія магутнасьці, чымсьці каб Захад меў тым самым дынамітам нацыяналізму рассаджваць маскоўскую імпэрыю. Захад, жадае, відаць, каб палітбюро йграла вялікую маскоўскую імпэрыяльную мэлёдыю на сваей палітычнай трохструннай балалайцы — у Карэі, Індакітаі й Блізкім Усходзе, чымсьці каб гэтая расправа з Масквою разыгрывалася ў Прыбалтыцы, Беларусі, Украіне, Каўказе й Сібіры. У Карэі, у Індакітаі, у Тэгеране, у Каіры, у Тунісе Захад атрымлівае гэтымі днямі пaквітаваньні ня так ужо за зласьлівасьць маскоўскага імпэрыялізму, як за свой собскі палітычны нярозум.

# Старшыня ЦБАА у Мадрыдзе

Ад 14 да 18 лютага група беларускіх студэнтаў у Мадрыдзе гасьціла ў сябе Старшыню Цэнтралі Беларускіх Акадэміцкіх Арганізацыяў на Чужыне др. Барыса Рагулю. Паважаны госьць быў прывітаны на Паўночнай Станцыі Мадрыду ўсімі сябрамі нашае групы. Пасьля пераезду на памешканьне й у працягу наступных дзён адбыліся доўгія сяброўскія гутаркі, падчас якіх старшыня ЦБАА паінфармаваў нас дакладна аб дзейнасьці беларускіх студэнцкіх арганізацыяў на чужыне. З нашага боку быў ён паінфармаваны аб жыцьці й дзейнасьці нашае мадрыдзкае студэнцкае групы, аб цяжкасьцях, якія напатыкаюцца па дарозе, і аб магчымасьці яе большае актывізацыі. Супольна былі прадыскутаваныя пытаньні павялічэньня тутэйшага студэнцкага асяродзьдзя й справа эвэнтуальнае дапамогі з боку іншых беларускіх арганізацыяў, неабходнай дзеля ўзмацненьня й пашырэньня беларускае нацыянальнае дзейнасьці ў Гішпаніі.

У часе свае кароткае візыты ў Мадрыдзе др. Б. Рагуля адведаў выдатных прадстаўнікоў гішпанскіх дзяржаўных установаў, кіраўніцтва арганізацыі, якая апякуецца ўцекачамі зь Сярэдняе й Усходняе Эўропы, і дырэктара калегіі, дзе жывуць студэнты-выгнанцы.

Кажная з гэтых візытаў дала прыгожыя рэзультаты. Яны выдатна прычыняцца да аблягчэньня й большае эфэктоўнасьці працы беларускіх студэнтаў у Гішпаніі. Мелі месца таксама спатканьні й гутаркі з прадстаўнікамі іншых нацыянальнасьцяў.

У панядзелак 18 лютага наш паважаны госьць разьвітаўся зь беларускай студэнцкай групай, пакідаючы ў яе глыбокія й мілыя ўражаньні, якія моцна адсьвежылі й узмоцнілі веру й сілы для змаганьня за нашую лепшую будучыню.

**Я. С.**

ЯКУБ КОЛАС

# НОВАЯ ЗЯМЛЯ

## ПАЭМА

### XI

### ДЗЕДАЎ ЧОВЕН

Міхал ўвайшоў у хату злосны.
— Ах, ты вар'яце бязьлітосны!
За што ты лаеш, за што хаеш?
Што да мяне ты, скажы, маеш?
Чаго чапляешся слатою,
Каб ты ня ведаў век спакою!
А прападзі ты, гад шалёны! —
І доўга сыпалісь праклёны,
Пакуль Міхал свой гнеў ня выліў.
— Але-ж і я яго зажыліў!
І зразу змоўк, сабача морда! —
Міхал прамовіў досыць горда: —
Прагоніць вон — хай праганяе,
А служба знойдзецца такая:
Мяне сам князь у замку знае!
— І маладзец, — гаворыць жонка: —
Ды трэба больш было насыпаць,
Каб аж пайшло калоць пад кіпець,
Каб зьзеляне ён, як зялёнка.
Прагнаць! за што? Украў ці што ты?
За лес спраўляеш сабе боты?
Ці прапіваў дабро скарбова?
Ня будзе гнаць цябе за слова:
Няма прычын. А папусьціся,
Тады ідзі ды хоць тапіся.
— Ото-ж зараза! от халера!
Вось дачакалі сабе зьвера!
Прыпільнаваць-бы дзе, брыду, —
За «гітал», падлу, ды ў ваду!
Парваць-бы ноздры качарэжкай,
Або глузды адбіць даўбешкай;
І ня было-б табе граху:
Забіў, як вош або блыху! —
І дзядзька моцна абурыўся
І развaжаць яшчэ пусьціўся:
Ці быў-бы грэх, ці грэх ня быў,
Калі-б падлоўчага забіў?
Міхал, сказаць, крыху баяўся:
Размовы зь ім ён спадзяваўся.
А што, як скажа выбірацца?...
Такі пабайваўся, прызнацца,
Бо што-ж? няма дзе разгарнуцца,
Няма дзе, брат, табе прыткнуцца.
Ды ў той-жа дзень наказ быў даны
Ісьці Міхалу пад буданы
Сачыць ваўкоў. Ну, значыць, квіта!
Прайшла гарачка і нябыта.
І праўда: ўсё сышло, ні слова.
І навет зь ім была размова
І гаварыць з сабой даваўся —
Ня тым, зусім ня тым здаваўся!
І ўсе згрызоты нейк адселі,
І ўсе тут зноў павесялелі
Ды зноў рабілі свае справы
І для карысьці, і для славы.
Цяпер дазвольце вы ўжо мне
Сказаць аб дзедавым чаўне.
Калі казаць пра човен дзедаў,
То трэба ўжо, каб кажны ведаў
Пра дзеда Юрку хоць-бы змала.
Перш-на-перш Юрка — цесьць Міхала,
А стала быць яго сваяк;
Затым — дзед Юрка быў рыбак.
Ды рыбакі ня ўсе аднакі —
Свае ў іх густы і адзнакі.
Дзед меў да сецяў нахіленьне,
А вудзіць — не: ня меў цярпеньня
8) І ня любіў навогул вуды
І гэтай вудавай маруды,
Бо вуды любяць больш паны
І, выбачайце, сьвістуны;
Хоць, праўда, хлеб ядуць із вуды,
Але ня ўсе і не заўсюды;
Вось невад — о! другая справа —
Тут, брат, ня вуда, тут — аблава!
І волак можна пахваліць:
І можна здорава лавіць.
А лепш за ўсё, мае браткі...
Сказаць вам? венцер, нераткі!
Ды толькі трэба мець знароўку,
Каб не страляць у саракоўку,
Бо трэба ведаць, дзе паставіць
Ды ўмець і венцер добры справіць.
Мастак быў дзед на ўсё на гэта:
Лавіў нямала ён за лета;
Былі ліны, язі і плоткі —
Лузаў дзед добра сабе злоткі:
Было аз што кручок загнуць,
Было і ў краму з чым зірнуць.
І любяць дзеда Юрку ўнукі,
Яны цалуюць яму рукі,
А дзед у плечы іх цалуе
І абаранкам пачастуе.
Цукеркі дзеду — не, ня любы,
Няхай іх качкі: псуюць зубы,
Дык лепш ня знаць іх, ну іх к ляду,
Гэту дзявочую прынаду!
Звычайна дзед быў вельмі ціхі,
Не падымаў нідзе шуміхі,
Але быў сталы і разумны,
Такі разважлівы і ўдумны —
Ну, чалавек старога складу,
Калі што скажа, то да ладу,
Але дзе крыўда і махлярства,
Тады дзед меў адно лякарства —
Не паглядзіць ён, хто такі ты:
Хоць чорт, хоць д'ябал знамяніты,
Пляваць яму на тваю масьць,
Але ўжо чапаласу дасьць.
Адзін на ўсіх пайсьці гатовы,
Без разважаньня, без размовы!
Ну, а калі дзед падгуляе,
Тады ён зноў адменнасьць мае,
Тады ён навет і бушуе
І трохі сына памуштруе;
Але пад гэтым бушаваньнем
Хавае гумар з насьмяханьнем:
Больш жарты строіць, чым ваюе.
— Язэп, ўставай! — крычыць ён сыну:
Ўставай у гэтую-ж хвіліну! —
Бярэ дзед ноты тэнаровы,
Нібыта злосны яго бровы.
— Чаго да хлопца прывязаўся?
Лепш лёг-бы каменем. Набраўся! —
Гаворыць баба і сярдуе,
А дзед яе, як-бы й ня чуе.
— Ўставай, лайдак, маліся Богу! —
Язэп варушыцца ў бярлогу,
Ўстае, пачухваецца, плача:
Што то за доля, за бядача!
Ці ён распусьнік? ці ён збойца?
— Ну, кленч!.. хрысьціся! ў імя Войца!..
Язэпа трохі дзед павучыць,
І памуштруе, і памучыць,
Бо трэба-ж іх адукаваць
І паслушэнству навучаць.
Яшчэ на дзеда паглядзеце,
Калі дзед вып'е на банкеце.
У дзеда шчокі румянеюць,
У дзеда вочы весялеюць,
Гарохам дзедаў сьмех якоча,
А сэрца руху, шуму хоча.
«Эх ешча-шчышча! Ешча-шчышча!»
Тут дзед і цмокае, і сьвішча,
Як салавей зь сіваваронкай,
Ды як зальецца песьняй звонкай!...
Не! дзеду трэба болей руху,
І дзеду цесна ў тым кажуху.
Кажух на лаву дзед ськідае
І бубен-рэшата хапае,
Бубніць у вечка, чым папала,

# Ня выкараніць беларускасьці з душы нашага народу

Расейскі бальшавізм у сваім разбуральным паходзе супраць беларускага народу галоўнае сваё астрыё накіраваў на поўнае зьнішчэньне ягонай нацыянальнай культуры, ня толькі на ліквідацыю нацыянальнага зьместу, але таксама й формы. Ды гэта й зразумела. Прыгожая літаратура, мастацтва, музыка, тэатр, навуковая дзейнасьць зьяўляюцца тымі галінамі духовала жыцьця, у якіх беларускі народ шукае магчымасьцяў выяўленьня свайго нацыянальнага «я», у якіх, пад дазволенай яшчэ нацыянальнай формай, намагаецца праявіць, хоць пасярэдна й замаскавана, і свой нацыянальны зьмест.

Аб нязьнішчальнай нацыянальнай патэнцыі беларускага народу можа бадай што найбольш вымоўна сьветчыць факт, што бальшавіком, ня гледзячы на звыш дваццацігоднюю кампанію супраць гэтага беларускага зьместу, не ўдалося дагэтуль перамагчы беларускага «нацыяналізму», не ўдалося выкараніць з душы беларускага народу ягонай беларускасьці.

У чым-жа праяўляецца сяньня гэтая беларускасьць?

З гледзішча на безаглядны бальшавіцкі тэрор, яна праяўляецца ня столькі ў мамэнтах пазытыўных, сколькі ў нэгатыўных — у сьвядомым байкатаваньні розных савецкіх мерапрыемстваў, накіраваных на пераўзгадаваньне беларускага народу ў духу дырэктываў камуністычнай партыі й на выкараненьне зь ягонай сьвядомасьці перажыткаў «буржуазнага нацыяналізму». Савецкая прэса апошнім часам не на жарты б'е трывогу, што беларускі народ да ўсіх гэтых мерапрыемстваў ставіцца варожа, у найлепшым выпадку — абыякава, што камуністычная ідэалёгія ўсьцяж зьяўляецца для яго чужой і ніяк не прывіваецца ня толькі сярод народных масаў, але таксам й інтэлігенцыі, якая ў беларускім культурным жыцьці адыгрывае вядучую ролю, што гэтая інтэлігенцыя, на вонкі прававерная, у запраўднасьці культывуе варожыя да камунізму «нацыяналістычныя» тэндэнцыі. Таму, што гэтая кампанія савецкай прэсы носіць сыстэматычны й алярмуючы характар, можна судзіць аб тым, што антысавецкія настроі й тэндэнцыі прынялі ў падсавецкай Беларусі сур'ёзны й масавы характар.

I так савецкая прэса канкрэтна абвінавачвае беларускую літаратуру й усякіх відаў мастацтва ў вадыходзе ад савецкай запраўднасьці й найбольш істотных патрэбаў дня, намечаных дырэктывамі партыі й ураду, у вадарваньні ад «вялікай культуры» «вялікага расейскага народу», й абароне перад ейнымі ўплывамі, што кваліфікуецца, як «нацыянальная абмежаванасьць», у ўцяканьні да абстрактных, навет дарэвалюцыйных тэмаў і ўяўленьняў, ня зьвязаных з працэсам сучаснага савецкага жыцьця, і напасьледак — у «буржуазным нацыяналізьме».

З гэтага гледзішча заслугоўваюць на ўвагу два артыкулы-перадавіцы у воргане цэнтральнага камітэту камуністычнай партыі Беларусі — «Зьвязды»: «Сьмялей уваходзіць у жыцьцё» (у газэце парасейску — «утаргацца ў жыцьцё), надрукаваны ў газэце за 1 сьнежаня 1951 г., і «Павышаць узровень літаратурнай крытыкі» — за 23 сьнежаня 1951 г.

У артыкуле першым, адзначыўшы некаторыя дасягненьні беларускае літаратуры й мастацтва ў галіне ажыцьцяўленьня партыйных дырэктываў — бо ня могуць-жа быць толькі адмоўныя бакі — газэта з абурэньнем піша:

«Аднак трэба прызнаць, што многія беларускія пісьменьнікі, дзеячы выяўленчага мастацтва й музыкі ўсё яшчэ слаба «ўтаргаюцца» (чужаслоў наш — Рэд.) ў жыцьцё, недастаткова глыбока вывучаюць сутнасьць працэсаў нашага разьвіцьця, не заглядаюць у заўтрашні дзень нашай краіны. Гэта зьяўляецца аднэй з важнейшых прычын сур'ёзнага адставаньня, напрыклад, беларускай драматургіі. Беларускія драматургі ў гэтым годзе не парадавалі гледачоў ніводнай п'есай аб сяньняшніх днях нашай рэспублікі, аб гістарычнай важнасьці падзеяў і працэсаў, што адбываюцца зараз у савецкай краіне. А ясна-ж, што глыбокае вывучэньне драматургамі шмат граннай савецкай рэчаіснасьці, сьмелае «ўтражэньне» ў жыцьцё дало-б ім сотні хвалюючых тэмаў, падказала-б сотні праўдзівых сюжэтаў».

«У вялікім даўгу перад чытачом і беларускія празаікі. Яны яшчэ не стварылі высокамастацкіх твораў аб гістарычнай дружбе рускага й беларускага народаў, аб устанаўленьні савецкай улады на Беларусі й стварэньні беларускай сацыялістычнай дзяржаўнасьці, аб задзіночаньні ўсіх беларускіх земляў у вадзінай беларускай савецкай дзяржаве.»...

«Нягрунтоўнае, павярхоўнае вывучэньне савецкай рэчаіснасьці прыводзіць асобных пісьменьнікаў да скажэньня праўды нашага жыцьця, да зьбядненьня гераічных справаў нашага народу й вобразаў савецкіх людзей. Асобныя пісьменьнікі знаходзіліся, а некаторыя знаходзяцца навет і цяпер у палоне старых уяўленьняў аб Беларусі, дапускалі апалітычнасьць і бязідэйшчыну ў сваіх творах...»

У далейшым газэта спыняецца над ідэйна-палітычнай ацэнай экспанатаў рэспубліканскай выстаўкі беларускага выяўленчага мастацтва, што нядаўна перад гэтым адбылася ў Менску. I тут, у мастацтве тыя-ж самыя недахопы, што й у літаратуры. Газэта піша:

«Аднак гэтая выстаўка наглядна гаворыць і аб сур'ёзных недахопах у рабоце Саюзу Савецкіх Мастакоў БССР. Ён яшчэ слаба змагаецца за выкананьне гістарычных пастановаў ЦК ВКП(б) па ідэалягічных пытаньнях. На выстаўцы вельмі мала абразоў (у газэце — «карцін»), прысьвечаных сяньняшняму дню нашай краіны, рэспублікі, выдатным людзям, выхаваным партыяй Леніна-Сталіна. Большасьць абразоў — гэта пэйзажы, многія зь якіх далёка не перадаюць тых вялізарных зьмен, што адбыліся ў Беларусі за гады савецкай улады.»...

Тыя-ж самыя недахопы знаходзіць газэта й у дзейнасьці беларускіх кампазытараў: «Нельга не адзначыць і таго, што беларускія кампазытары да гэтага часу не стварылі опэры аб пасьляваеннай працы беларускага народу, што тэатры рэспублікі вельмі мала паставілі п'ес на тэмы сучаснага жыцьця народу».

У разьвіцьці літаратуры вялізарную адыгрывае ролю літаратурная крытыка. Яна, побач з ацэнаю літаратурнага твору з гледзішча мастацкага й ідэалягічнага й вызначэньня яму належнага месца ў вагульным літаратурным працэсе, таксама й паказвае той ідэалягічны кірунак, якога павінны прыдзержывацца аўтары. Але што-ж зрабіць, калі беларуская літаратурная крытыка зьяўляецца абцяжанай усімі тымі грахамі, што й сама прыгожая літаратура. Вось-жа ў іншым успомненым артыкуле «Зьвязды» («Павышаць узровень літаратурнай крытыкі») знаходзім наступныя абвінавачаньні беларускіх літаратурных крытыкаў:

«Але трэба сказаць, што літаратурная крыытка ў Беларусі ўсё яшчэ адстае ад запатрабаваньняў жыцьця. Яна слаба змагаецца за далейшы ўздым беларускай савецкай літаратуры, за стварэньне высокаідэйных і высокамастацкіх твораў, вартых гераічнага савецкага народу. У часапісах і газэце, выдаваных (у газэце парасейску — «выдаваемых») Саюзам савецкіх пісьменьнікаў, мала друкуецца такіх артыкулаў, у якіх-бы ўзьнімаліся прынцыповыя пытаньні разьвіцьця літаратуры, даваліся абагульненьні літаратурных зьяваў, сур'ёзны й глыбокі аналіз творчасьці пісьменьнікаў. Крытыка твораў беларускае літаратуры часта вядзецца зь месьніцкіх пазыцыяў, бяз уліку вялікага вопыту передавой расейскай літаратуры, без паказу яе магутнага ўплыву на разьвіцьцё нацыянальных літаратураў».

Для ілюстрацыі гэтага абвінавачаньня газэта паказвае пальцам на літаратурны часапіс «Полымя», літаратурную газэту «Літаратура й Мастацтва», на Існтытут Літаратуры й Мастацтва Акадэміі Навук БССР ды паасобных крытыкаў, у якіх «адсутнічае прынцыповая бальшавіцкая крытыка й самакрытыка» й якія ў значнай ступені паносяць віну за ідэалягічны кірунак усей беларускай літаратуры, супярэчны з вымаганьнямі камуністычнай партыі.

Мы ў сваіх разважаньнях сяньня абапёрліся толькі на двух атрыкулах савецкай прэсы. Трэба аднак зацеміць, што падобныя артыкулы паяўляюцца на балонах савецкае прэсы сыстэматычна, — аб чым мы час ад часу й інфармуем нашых чытачоў. Трывожныя сьцьверджаньні аб байкатаваньні савецкіх вымаганьняў у літаратуры й мастацтве ды аб «буржуазна-нацыяналістычных» ухілах зьяўляюцца аднымі з найважнейшых пунктаў парадку дня розных партыйных, камсамольскіх і іншых савецкіх зьездаў, канфэрэнцыяў і нарадаў.

Аб чым-жа ўсё гэта сьветчыць?

Кажны, хто знае ўмовы савецкага жыцьця, ведае добра, што там словы ня кідаюцца на вецер. Калі партыйныя бальшавіцкія дзейнікі ў нейкай справе б'юць трывогу, абазначае гэта, што нешта там узапраўды ў непарадку. Калі беларуская літаратура інстынктоўна адхіляецца ад савецкай запраўднасьці, ад насільна прывіванай ей расейшчыны, а шукае выхаду із зьненавіджанага казённага палажэньня, бяручы за тэмы для творчасьці мамэнты або абстракцыйныя, зусім адарваныя ад савецкага жыцьця, або дарэвалюцыйныя, гэта значыць, што беларуская літаратурна-мастацкая творчасьць усякімі спосабамі бароніцца перад чужым і варожым беларускаму народу расейска-камуністычным шаблёнам.

У гэтай творчасьці ня рэдка й непасрэдна выступае г. зв. «буржуазны нацыяналізм», які выражаецца ў мастацкім выяўленьні любові да роднага краю й народу пры абыякавых дачыненьнях да расейшчыны, хаця, згодна з вымаганьнямі партыі, расейшчына гэтая павінна адыгрываць дамінуючую ролю, як найважнейшае жарало разьвіцьця й росту ўсіх нацыянальных культураў.

Але выразнае культываваньне нацыянальных вартасьцяў у вачох савецкае ўлады зьяўляецца ўжо не абы якім праступкам, які цягне за сабой вельмі небясьпечныя кансэквэнцыі. Таму зусім натуральна, што «нацыяналізм» беларусаў перадусім праяўляецца ў мамэнтах нэгатыўных: у сьвядомым прамаўчваньні ўсяго таго варожага беларускаму народу, чаго дамагаецца бальшавіцкая партыя й савецкі ўрад, і ў уцяканьні ў літаратурна-мастацкай творчасьці ад савецкай рэчаіснасьці ў сфэру абстракцыі й дарэвалюцыйнага жыцьця. Гэта сяньня адзіны спосаб пратэсту супраць бальшавіцкага гвалту над душой беларускага народу й адзіны спосаб задакумэнтаваньня вернасьці беларускім нацыянальным ідэалам.

А паколькі такая тэндэнцыя ў творчасьці беларускіх літаратараў, мастакоў, музыкаў, дзеячоў навукі й культуры прыймае, як сьветчыць сама расейская прэса, масавы характар, патолькі зьяўляецца гэта вымоўным пацьверджаньнем незапярэчнага факту: **ня выкараніць беларускасьці з душы беларускага народу!**

**Ст. Крушыніч**

## „Беларускі Эмігрант“ узноў у надзейных руках

Чытачы «Беларускага Эмігранта», атрымаўшы Но. 1 (39) газэты, былі няміла зьдзіўленымі, а некаторыя абураліся да глыбіні сэрца. Як можна штосьці падобнае пускаць у сьвет? Гэта-ж кампрамітацыя ня толькі самой газэты, але кампрамітацыя беларускае мовы й беларускага імя наагул. У нумары налічваецца звыш 700 граматычных, сынтаксычных і якіх толькі хочаце памылак. Жахлівая канструкцыя сказаў, хвальшаваньне й перакручваньне вестак, шмат матарыялу, які нікога ня цікавіць і нікому не дае карысьці. Як доўга існуе беларускі друк і, магчыма, як доўга існаваць будзе, такога жахлівага й скандалічнага часапісу яшчэ ня было й ня будзе.

У чым-жа справа? Ці-ж беларусы ў Торонто з глузду зьехалі?

Ад некаторага часу ў гэтым канадыйскім горадзе працавала даволі зактывізаваная групка, якая ўсё ганіла й змагалася супраць усяго, што не яна рабіла. Найбольш ведамым і карыгодным чынам гэтае групы было яе войстрае змаганьне супраць арганізацыі лектарату беларусаведы пры ўнівэрсытэце ў Торонто. Але навет гэтае змаганьне супраць пляцоўкі беларускае культуры й асьветы не пераканала некаторых людзей добрай волі ў шкоднасьці гэтае групкі для беларускага нацыянальна-палітычнага жыцьця. Дзеля таго найбольш сьведамыя й актыўныя мясцовыя беларускія грамадзка-палітычныя дзеячы пастанавілі даць гэтым людзям магчымасьць, каб яны паказалі перад грамадзтвам, што ўмеюць, і каб у кірунку выяўленьня свайго ўменьня папрацавалі. У выніку гэтага на гадавым сходзе Беларускага Выдавецкага Фонду ў Торонто 28 кастрычніка мінулага году ў Рэдкалегію «Беларускага Эмігранта» было дапушчана трох чалавек: сп. сп. Я. Пітушку, В. Камароўскага й М. Пашкевіча, якія да гэтага часу праводзілі заядлую апазыцыю да ўсяго таго, чаго яны не рабілі. I іхнае ўменьне хутка выявілася.

Пасьля цярплівага трохмесячнага чаканьня мясцовае беларускае грамадзтва атрымала на рукі прадукт іхнае працы — Но. 1 (39) «Беларускага Эмігранта». Вартасьць ці, дакладней кажучы, абсалютную бязвартаснасьць газэты змогуць ацаніць ня толькі журналістыя ці людзі, добра ведаючыя беларускую мову, яе заўважаць самыя простыя й мала пісьменныя людзі.

Цярпеньне беларускага грамадзянства вычарпалася. Наглядная Рада Выдавецкага Фонду склікала надзвычайны сход на 10 лютага сёлета. Ведалі вінаваты[illegible], чым для іх той сход пахне, і таму выявілі надзвычайныя здольнасьці пры мабілізаваньні новых сяброў у арганізацыю Фонду (гэтыя здольнасьці выявіліся навет у ўцягваньні ў гэтую арганізацыю 16-гадовых сяброў, што статутам не дазваляецца), каб павялічыць свой лік галасоў. Калі-ж адразу на пачатку сходу зарыентаваліся, што яны ўсё-ж такі ў ваграмаднай мяншыні, вырашылі браць крыкам. Ды дарэмна! Цярплівасьць сьведамага беларускага грамадзянства была вычарпаная й, як аб скалу, разьбіліся ўсе намаганьні шкоднай групы, каб утрымаць і далей у сваіх руках газэту. Бачучы, што нічога зрабіць ня ўдасца, аставалася ім толькі выйсьці за дзьверы, што яны й зрабілі.

Дзьве трэйціх удзельнікаў сходу, што асталіся на залі, рэчова й разумна правялі далейшыя нарады. У прынятай сходам рэзалюцыі сказана, што найбольшую адказнасьць за жахлівы Но. 1 (39) «Беларускага Эмігранта» паносяць сп. сп. С. Хмара, Я. Пітушка, В. Камароўскі і М. Пашкевіч.

У склад новай камбінаванай управы Выдавецкага Фонду й Рэдкалегіі «Беларускага Эмігранта» ўвайшлі: сп. К. Акула — рэдактар, сп. М. Рэчыцкі — старшыня ўправы Фонду, сп. М. Ганько — адміністратар, сп. сп. А. Грыцук і Барановіч — сябры рэдкалегіі й управы Фонду.

Астаецца выказаць задаваленьне, што «Беларускі Эмігрант», пасьля году перабояў у працы й пасьля ягонай канчатковай руіны, спрычыненай безадказнасьцю й шкоднасьцю групы сп. Хмары, пачынае пяты год свайго існаваньня, трапіўшы ў добрыя й надзейныя рукі ведамых на тутэйшым груньце беларусаў.

**А.**

## У памяць масавага народаўбіўства

Стараньнем Паўночна-Каўкаскага Нацыянальнага Камітэту на чужыне адбылася 23 лютага ў Мюнхене жалобная акадэмія ў памяць восьмай гадавіны жахлівага савецкага пагрому народаў Паўночнага Каўказу. На гэтую акадэмію былі запрошаныя прадстаўнікі ўсіх паняволеных Масквою народаў, у тым ліку й беларусы. Акадэмію адкрыў кароткай прамовай старшыня Паўночна-Каўкаскага Нацыянальнага Камітэту сп. А. Магома, які заклікаў ушанаваць адназмінутнай цішынёй памяць ахвяраў бальшавіцкага тэрору.

Пасьля гэтага сп. А. Магома прачытаў абшырны рэфэрат пра савецкі тэрор на Каўказе, а асабліва пра падзеі 23 лютага 1944 г., калі была праведзена ліквідацыя 40% паўночна-каўкаскага насельніцтва. Пайменна, на падставе дэкрэту савецкага ўраду ад 11 лютага 1944 г., у вапрацаваньні якога прыймалі ўдзел Сталін, Молатаў, Кагановіч і Мікаян, дня 23 лютага 1944 г. была зьнішчаная чэчэна-інгуская аўтаномная рэспубліка. Частка насельніцтва гэтай рэспублікі была выгублена на месцы, частка вывезена ў Сібір і Сярэднюю Азыю. Такім чынам зьнішчана або вывезена каля 800.000 чалавек, а іхная маемасьць была сканфіскаваная на карысьць дзяржавы. Апарожненыя тэрыторыі былі потым заселеныя сялянамі з цэнтральнай Расеі.

У лістападзе й сьнежані папярэдняга 1943 г. такая самая доля спаткала карачаеўцаў і балкарцаў. Тут было зьнішчана або вывезена звыш аднаго мільёну насельніцтва. Больш менш у тым-жа часе бальшавікі расправіліся таксама з калмыкамі, крымскімі татарамі й немцамі з Паволжа. Дакладчык падчыркнуў, што Савецкі Саюз зьяўляецца спадкаемнікам імпэрыялістычнай палітыкі царскай Расеі, бо падобнага роду вынішчэньне насельніцтва мела таксама месца й пры царскім рэжыме. Між іншым, цар Мікалай I даў даручэньне ген. Паськевічу «здушыць каўкасцаў або іх поўнасьцю зьнішчыць».

Аднак народы Каўказу хочаць жыць собскім вольным жыцьцём. Ня гледзячы на зьнішчэньне чырвонай Масквой дзяржаўнай незалежнасьці каўкаскіх рэспублікаў, каўкаская праблема становіцца сяньня пытаньнем міжнародным, а палітычнай праграмай каўкасцаў ёсьць вызваленьне Каўказу з пад расейска-бальшавіцкай акупацыі й прывярненьне дзяржаўнай незалежнасьці. У гэтым імкненьні — зазначыў дакладчык — каўкасцы рука ў руку йдуць салідарна з усімі паняволенымі народамі.

### БЕЛАРУСКІ ПРАВАСЛАЎНЫ ПРЫХОД У СЫДНЭІ

У першую нядзелю кажнага месяца пры Ўкраінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве ў Сыднэі (Аўстралія) адбываюцца праваслаўныя Божыя Службы сьвятароў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Лік вернікаў, што наведваюць гэтыя Божыя Службы, з кажным месяцам узрастае. На асаблівую ўвагу заслугоўваюць Багаслужбы айца благачыннага Анатоля, які сваім мілагучным голасам і чульлівымі прамовамі хапае за сэрцы й душы ўсіх прысутных.

### БЕЛАРУСКАЯ СТУДЭНЦКАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ Ў ГІШПАНІІ

Дня 16 лютага ў прысутнасьці Старшыні ЦБАА др. Б. Рагулі адбыўся сход беларускіх студэнтаў у Мадрыдзе з мэтай стварэньня беларускай студэнцкай арганізацыі ў Гішпаніі. Пасьля даўжэйшай дыскусыі над базай, на якой мае апірацца новая арганізацыя і ейнай назвай, была выбраная ўправа арганізацыі. Новая арганізацыя носіць назву: Беларускае Акадэміцкае Згуртаваньне ў Гішпаніі.

### З ЖЫЦЬЦЯ БЕЛАРУСАЎ У АРГЕНТЫНЕ

Беларусы гораду Бэразатэджы 17 лютага сёлета адзначалі другую гадавіну заснаваньня праваслаўнага прыходу, у якім служыць пратаярэй Васіль Вячорка, беларус з Палесься, а хорам кіруе сябра Згуртаваньня Беларусаў у Аргентыне сп. Я. Гедрох. Праваслаўныя беларусы й украінцы, што пражываюць у гэтым горадзе й аколіцах, збудавалі тут невялічкую царкоўку.

У гэты дзень прыбыла сюды шматлікая дэлегацыя беларусаў з Буэнос-Айрэс на чале з управай ЗБА, бо была адкрытая табліца-абраз у чэсьць беларусаў, паўшых у баю пад Монтэ-Касыно, і адпраўленая за іх жалобная паніхіда.

Табліца з поўным сьпіскам палеглых была зробленая сяброўкамі Згуртаваньня згодна з прынятай пастановай 26 жніўня 1951 г. Гэты дзень у будучыні будзе ўрачыста адзначацца кажны год, калі будзе ў успомненай царкве адпраўляцца жалобная паніхіда ня толькі за палеглых беларусаў пад Монтэ-Касыно, але й за ўсіх тых, што аддалі сваё жыцьцё ў змаганьні за волю Бацькаўшчыны.

**К. Мацкевіч**

## Да нашых Чытачоў і Прадстаўніцтваў

**Пачынаючы з 6 нумару, часьць эгзэмпляраў «Бацькаўшчыны» высылаецца ў заакіянскія краіны лётніцкай поштай, а часьць поштай звычайнай. Прыкладам, у ЗША высылаецца лётніцкай поштай такая колькасьць, якой будзе дастатк[illegible]ва, каб разаслаць газэту ўсім падпішчыкам, якія акуратна аплачваюць падпіску. У сувязі з гэтым просім нашых Прадстаўнікоў газэту, атрыманую імі лётніцкай поштай, рассылаць толькі тым падпішчыкам, якія акуратна й наперад аплачваюць падпіску.**

**Цана аднаго эгзэмпляра «Бацькаўшчыны», высыланага лётніцкай поштай, падвойная.**

## ШУКАЮЦЬ

**Аляксандра Савіцкага** ў веку 52 гады, народжанага ў вёсцы Казіна Слонімскага павету, шукае знаёмы Тодар Барысік.

Весткі слаць на Адміністрацыю «Бацькаўшчыны».

**Сяргіевіча Юльяна** шукае **Сяргіевіч Васіль.** Просьба адгукнуцца на адрас: 9, rue de la Dreve, Harchies, Hainaut, Belgique.

## Прадстаўніцтвы „Бацькаўшчыны“

**ПАЗА НЯМЕЧЧЫНАЙ:**

1. **У Бэльгіі:** Mr. Karas Leonid, 19, Place Hoover, Louvain, Belgique.
2. **У Ангельшчыне:** The Whiteruthenian Editorial Foundation 52, Penn Road, London, N. 7. England.
3. **У Францыі:** Mr. Symaniec Vladimir, 15, rue du L. Boncour, Neuilly s/Seine, France.
4. **У ЗША:** Mr. B. Danilovich, 222 Suydam St. New Brunsvick, N. J. U. S. A.
5. **У Канадзе:** Mr. Joseph Corny, 270 Clinton Str. Toronto, Ont., Canada.
6. **У Аргентыне:** Asociacion Bielorusa en la Argentina calle Coronel Sayos 2981, 4 de Junio prov. Buenos Aires. Argentina.
7. **У Аўстраліі:** Mr. Jackievic Donat, 60 Fisher Street, East Brisbane, Q-ld, Australia.
8. **У Вэнэцуэлі:** Dudzickj Vladimir, Crucesita a San Miquel 74, Caracas, Venezuela.
9. **У Новай Зэляндыі:** Mr. Karanieuskj Marjan, Burns Izonso, Mosgiel, New Zeeland.

**Непасрэдна з гэтых прадстаўніцтваў просім суродзічаў выпісваць «Бацькаўшчыну» і там-жа разьлічвацца за газэту.**

**ЦАНА «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ» ПАЗА НЯМЕЧЧЫНАЙ**

| | |
|---|---|
| 1. ЗША | 15 цэнтаў |
| 2. Канада | 15 цэнтаў |
| 3. Вялікабрытанія | 1 шылінг |
| 4. Францыя | 40 франкаў |
| 5 Аўстралія | 1 шылінг |
| 6. Аргентына | 2 пэзо. |
| 7. Бэльгія | 5 франкаў |

Ува усіх іншых краінах раўнавартасьць 15 цэнтаў ЗША за 1 эгзэмпляр.

**З прычыны дэвізовых абмежаваньняў у Нямеччыне грошы за «Бацькаўшчыну» з усіх краінаў паза Нямеччынай просім перасылаць на наступны адрас:**

**Mr. Jan Zaprudnik, 19, Place Hoover, Louvain, Belgique.**